ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 14(5196)
Субота,
3 лютага
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
48 руб.

Педагогіка ўрока

## І нават слабы набывае моц

*Асноўнай прычынай непаспяховасці большай часткі школьнікаў прама ці ўскосна з'яўляюцца недахопы вучэбна-выхаваўчага працэсу. Я працую ў школе больш за 20 год, і вопыт дае мне магчымасць зрабіць выснову, што ў паўрочных планах настаўніка плануецца толькі свая дзейнасць. Мы не заўсёды думаем пра дзейнасць вучняў, таму што не ведаем, як яе арганізаваць правільна. Наша педагагічная навука добра ўзброіла нас толькі методыкай выкладання. Вось і атрымліваецца, што ў школе шчыруе настаўнік, а не вучань.*

Кожнаму вядома, што вучэбны матэрыял сам па сабе нейтральны, ён не выхоўвае і не развівае. Каб ён выхоўваў і развіваў, трэба перабудаваць характар удзелу школьнікаў у здабыванні ведаў, уменяў і навыкаў. Гэтаму вучыць калектыўны спосаб навучання.

Толькі ў працы можна прывучыцца да працы, толькі ў працы можна палюбіць працу — гэтае правіла выпрацавала народная педагогіка, а не мы. На яе глебе ўзнікла і развівалася ўся педагагічная навука, да якой сёння, у перыяд адраджэння нацыянальных школ, звяртаюцца настаўнікі, метадысты, навукоўцы. Як жа выкарыстоўваць прагрэсіўныя ідэі народнай педагогікі ў практычнай рабоце? У пазакласнай і пазашкольнай дзейнасці яны лёгка рэалізуюцца ў арганізацыі святаў, вечароў, аглядаў, грамадска карыснай вытворчай працы і г.д. А як прымяніць іх у працэсе навучання?

У гэтым дапаможа тэорыя калектыўнага спосабу навучання, распрацаваная В.К.Дзьячэнка. Яна глыбока народная, яе прынцыпы выраслі з ідэй народнай педагогікі. Яна мае завершаны характар, рыхтуе падрастаючае пакаленне да жыцця і працы. Акадэмік Г.Н.Волкаў у манаграфіі "Этнапедагогіка народа" прыводзіць звесткі апытання, праведзенага сярод 60 — 80-гадовых людзей на тэму "Што вы ўмелі рабіць у 10 — 12-гадовым узросце?" Мужчыны называлі 100 — 110, а жанчыны — 120 — 130 відаў працы.

Як гэты прынцып ажыццяўляецца ў школе? Навучанне па тэме павінна лічыцца завершаным, калі вучань ведае яе настолькі, што можа вучыць іншых. Звычайна пасля першага тлумачэння матэрыял бывае зразумелы і "харашыстам", і "выдатнікам". З дапамогай пытанняў настаўнік вызначае, што засталося незразумелым, і тлумачыць паўторна, акцэнтуючы ўвагу на незразумелым. Цяпер матэрыял успрынялі і "серадняркі". Час урока заканчваецца, даецца дамашняе заданне, з якім здольныя вучні спраўляюцца лёгка, сярэднія — з цяжкасцю, а слабыя не спраўляюцца зусім. Настаўніку ўсё ж даводзіцца пераходзіць да новай тэмы. У выніку адны засвойваюць матэрыял на "4" і "5", другія — на "3", а трэція зусім не засвойваюць. Такое становішча захоўваецца на працягу ўсяго навучальнага года. Але ў наступны клас пераходзяць ўсе, і амаль непаспяваючыя. Як бачым, школа не забяспечвае завершанасці ў навучанні.

Другі прынцып — бесперапынная неадкладная перадача ведаў. Успомнім, як у шматдзетных сем'ях старэйшыя сёстры вучылі маленькіх сястрычак вышываць, паказвалі, як падбіраць колеры, адначасова ўдасканальваючы і свае веды і ўменні.

Па-трэцяе — прынцып усеагульнага супрацоўніцтва і таварыскай узаемадапамогі. Ва ўсіх народаў, і беларускага, былі формы калектыўнай працы: талака, збор, гвалт. Такія работы праводзіліся ў тых выпадках, калі патрэбна было хутка выканаць тую ці іншую работу, непасільную адной сям'і, ці аказаць дапамогу таму, хто меў у ёй патрэбу і інш. Нават малым унушалася: "Адзін у полі не воін". Дзеці рана на ўласным вопыце пераконваліся: аднаму шмат не адолець — аб'яднаўшыся, з любой справай можна справіцца

Відавочная жыццёвая неабходнасць ставіць кожнага вучня ў становішча настаўніка. Але, навучаючы іншых, ён і сам дабіваецца найлепшага авалодання тэмай і вучэбным прадметам. Пры гэтым да вышэйшых вынікаў у сваёй рабоце дзіця прыходзіць, аказваючы дапамогу іншым, імкнучыся, каб іншыя дасягалі таго ж і нават большага.

Прынцып раздзялення працы, прынцып разнастайнасці тэм і заданняў. Народныя традыцыі размяркоўвалі працоўныя абавязкі ў адпаведнасці з асаблівасцямі полу, узросту і становішча чалавека ў сям'і. У сялянскай сям'і маці працавала ў хаце, бацька — у двары, сын хадзіў на паляванне, а дачка — за вадой, дапамагала маці ў хаце.

Супрацоўніцтва ў класе таксама магчыма толькі пры ўмове, калі ўсе вучні адначасова працуюць не над адной тэмай, а над рознымі тэмамі.

Калектыўны спосаб навучання прадугледжвае таксама рознаўзроставасць саставу адукацыйнага калектыву, навучанне па здольнасцях ці індывідуалізацыю навучання на калектыўнай і самастойнай аснове, педагагізацыю дзейнасці кожнага ўдзельніка вучэбных заняткаў.

У даўніну было заведзена, каб старэйшае дзіця ўдзельнічала разам з бацькамі ў выхаванні малодшых. Усе ці амаль усе браты і сёстры былі свайго роду выхавацелямі, а самы старэйшы быў галоўным у выхаванні ў адносінах да ўсіх сваіх малодшых братоў і сясцёр. Нешта падобнае адбываецца пры рабоце ў парах зменнага саставу: адзін вучань перадае веды другому. Школьнік становіцца і настаўнікам, і выхавацелем, ён адчувае сваю адказнасць перад калектывам, у рэшце рэшт перад грамадствам. Новая ўстаноўка ў дзейнасці школьнікаў змяняе і ролю настаўніка, бо галоўная задача цяпер — рыхтаваць з кожнага і настаўніка, і выхавацеля, дапамагчы вучням у авалоданні спецыяльнымі ведамі.

Выпускнікі сярэдняй школы не заўсёды падрыхтаваны да самаадукацыйнай дзейнасці. Прычына простая. Пры групавым спосабе навучання педагогі толькі гавораць пра самастойнасць, на справе ж вучням праяўляць яе складана.

У нашай традыцыйнай школе адсутнічаюць узаеміны на ўроках. Вучні на занятках маўчаць. 50 — 60 працэнтаў вучэбнага часу гаворыць настаўнік. Калі паспяваючы школьнік на працягу чвэрці атрымлівае тры-чатыры адзнакі за вусныя адказы, трацячы на кожны па паўтары-дзве хвіліны, то за чвэрць ён гаворыць 6 хвілін, за год — 24, за 5 гадоў — 120 хвілін, г.зн. дзве гадзіны. Адкуль жа ў такіх умовах могуць узяцца ў нашых выпускнікоў навыкі моўных узаемін? А яны так патрэбны на ўроках гісторыі, грамадазнаўства, літаратуры, мовы і іншых прадметаў! А ў жыцці?!

Магчымасці развіваць сацыяльную актыўнасць, актыўную жыццёвую пазіцыю на звычайных уроках мізэрныя. Вучні перастаюць быць грамадска актыўнымі, за выключэннем нямногіх, ператвараюцца ў маўчальнікаў, ціхонь. Пры групавым спосабе навучання пераважаюць сузіральныя працэсы.

Канешне, калектыўны спосаб навучання таксама мае недахопы: аднастайнасць, аслабленне ўвагі ў вучняў, цяжкасць спалучэння франтальнай работы з індывідуальнай, недаацэнка і пераацэнка пазнавальных магчымасцей вучняў, няўменне вучыць слабых, недастатковае развіццё пазнавальных здольнасцей дзяцей.

Лічу, што калі разам з індывідуальнай, парнай, групавой формамі навучання будзе выкарыстоўвацца і калектыўная, палепшыцца якасць навучання і выхавання.

Школа і настаўнік — галоўная фігура ў ёй — абавязаны стварыць такія ўмовы дзіцяці, якія далі б магчымасць яму раскрыцца як асобе, праявіць свае здольнасці. Для гэтага ў вучэбна-выхаваўчым працэсе павінны быць цэласнасць, арганічнасць сувязі педагогікі і псіхалогіі. Кожны настаўнік мусіць быць і тонкім псіхолагам. Нельга замяніць педагога на ўроку, падмяніўшы яго псіхолагам. Толькі ў адзінстве, у адной асобе педагог-псіхолаг зможа паспяхова вырашаць вучэбна-выхаваўчыя задачы школы. Само спалучэнне "вучэбна-выхаваўчы працэс" заклікае педагогаў дайсці да душы дзіцяці, выхоўваючы і навучаючы, бачыць у кожным асобу. Гэты пастулат не выклікае сумнення, асабліва ў наш суровы час. Нашы даследаванні па вывучэнні інтарэсаў, схільнасцей і асаблівасцей псіхікі дзіцяці пацвярджаюць вышэй сказанае.

Сучаснаму настаўніку, а тым больш маладому, які выйшаў са сцен alma-mater, не проста разабрацца ў багацці спецыяльнай літаратуры: што адабраць, на што абаперціся? Якімі методыкамі карыстацца ў тым ці іншым выпадку, якія з іх прымяняць да канкрэтнага школьнага ўзросту вучня? Акрамя таго, метады, якія прапануюцца вучонымі, часам складаныя і грувасткія, патрабуюць не школьных, а лабараторных, нават клінічных умоў (бо працуем жа мы і з цяжкімі падлеткамі і інш.). Прыход у школу педагога-псіхолага ў некаторай ступені здымае шэраг праблем, але, як адзначана вышэй, кожны з нас павінен быць тонкім псіхолагам. І тады нават слабы вучань набудзе сілу.

**Расціслаў ШЧАСНЫ,**
**настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы № 1 Смаргоні, кандыдат педагагічных навук, кіраўнік педпрактыкі студэнтаў БДПУ імя М.Танка.**

Субота. Можна і паспяваць

Фота Юрыя БОНДАРАВА.



Увага!

**Шаноўныя чытачы! Просім аўтараў допісаў у рэдакцыю паведамляць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас.**

**Гэта неабходна для налічэння ганарару і для падатковай інспекцыі.**

З пошты ў рэдакцыю

## Вось і ўся радасць?

***Мяне вельмі хвалюе, як у нас ставяцца да дзяцей настаўнікаў. І наогул да таго, што ў настаўнікаў, як і ва ўсіх нармальных людзей, можа быць сям'я.***

Многія настаўнікі не хацелі б, каб іх дзеці глядзелі на іх паяўленне ў хаце як на цуд. А атрымліваецца ж так: калі настаўнік добры, то ён у школе — да глыбокага вечара.

І нікога не хвалюе, што ў гэты час робяць дзеці гэтага настаўніка.

Хоць ні для каго ўжо не сакрэт, што на мяжы XX — XXI стагоддзяў вельмі шмат дзяцей-правапарушальнікаў сярод дзяцей настаўнікаў. Але ўсё роўна ўсе толькі абураюцца і здзіўляюцца. А маці-настаўніца, працуючы амаль на дзве стаўкі, вымушана працаваць і ў першую, і ў другую змену. І ўсё роўна грошай ледзь-ледзь хапае толькі на ежу.

Канец чвэрці — падвядзенне вынікаў, бацькоўскія сходы, дыскатэкі. На святы — дзяжурствы. Настаўнік на дыскатэцы зноў жа павінен чамусьці выступаць у ролі назіральніка. І ніхто за гэта яму не плаціць.

Часам настаўнік становіцца неўрастэнікам ужо праз 2-3 гады працы ў школе. Нагрузкі празмерныя.

А што ўжо казаць пра тое, што няма часу адкрыць новую кнігу, няма ні сіл, ні жадання нават глядзець тэлевізар ды і наогул рухацца. З працы — наесціся за цэлы дзень (абы-чаго!) і бухнуцца ў ложак. Вось і ўся радасць жыцця.

Прыйсці б дадому і прачытаць ахрыплым голасам хоць бы адну казку за тыдзень свайму ўласнаму сыну...

У Беларусі вельмі шмат адзінокіх жанчын-настаўніц. З кім жа іх дзеці? Што яны робяць? Гэта ж сіроты пры жывых бацьках!

Няўжо нашаму грамадству, нашым дзецям будзе дрэнна, калі настаўнік прыйдзе на працу, добра адпачыўшы, у добрым настроі, з жаданнем працаваць?

Зараз настаўнік, як выціснуты лімон, з карвалолам у кішэні ці з валяр'янкай у сумачцы, лічыць дні да канікул, да водпуску...

А чым настаўніцкія дзеці горш за іншых і чаму маці-настаўніцы павінны быць "гераінямі"? На карысць каму? Аддзелу адукацыі? Справаздачам, галачкам, паказчыкам? Бо калі шмат паказчыкаў, гэта яшчэ не значыць, што ўсе дзеці выхаваны.

Я не лічу, што гэта вельмі добра, калі настаўнік да ночы ў школе. Гэта вельмі дрэнна. Мне так хочацца, каб настаўнік спакойна пайшоў пасля працы дадому, як усе нармальныя людзі, і ўзрадаваўся сваім уласным дзецям.

**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
**педагог.**

## Чаму вінаватых шукаюць сярод настаўнікаў?

***Апошнім часам у мяне ўзнікае такое пытанне: куды мы прыйдзем і што з намі будзе? Пра злачыннасць столькі многа гавораць, столькі многа пішуць, прапануюць, што і як рабіць, а вынікаў у лепшы бок няма. Мне аднойчы давялося прысутнічаць на пасяджэнні райвыканкама, куды выклікалі бацькоў, якія не выконваюць свае абавязкі. Былі і дзеці, якія ў чымсьці правініліся, а таксама прадстаўнікі са школ. Аказваецца, некаторыя бацькі ўжо не першы раз сюды запрошаны, а "воз", як кажуць, "и ныне там". Але самае непрыемнае ва ўсім гэтым тое, што вінаватых шукаюць сярод педагагічных работнікаў, якіх абвінавачваюць у недапрацоўках. І ўзнікае само сабой пытанне: няўжо школа рыхтуе злачынцаў? Няўжо ў школе вучаць красці, зневажаць, нічога не рабіць, лаяцца? Як сказалі мудрыя яшчэ шмат вякоў назад, наша будучае закладваецца сёння. А што мы сёння робім?***

Вельмі многа робяць і ўлада, і школа для таго, каб дапамагчы дзецям з праблемных сем'яў: і за мяжу іх адпраўляюць, і матэрыяльную дапамогу аказваюць, і розныя мерапрыемствы для іх праводзяць... І што, яны становяцца лепшымі? А вы прыглядзіцеся да іх. Яны з адкрытым ротам чакаюць, каб хто што-небудзь даў яшчэ. Адна настаўніца расказала, што ў іх адзін хлопчык захварэў і яго палажылі ў бальніцу, дык ён загадаў (не папрасіў, а загадаў!), каб яго па чарзе наведвалі бацькі яго аднакласнікаў і прывозілі што-небудзь смачненькае, нават спіс склаў: хто, што і калі. Гэта ж на анекдот падобна! А колькі школьнікаў прыходзяць на заняткі без школьных прылад, а бедны педагог павінен знайсці выйсце. А то ж які ён настаўнік!? І зноў узнікаюць пытанні — а ці тое мы робім, ці ў той бок глядзім?

Біблейская мудрасць раіць, што калі хочаш дапамагчы чалавеку, то не рыбу для яго лаві, а дай яму вуду і пакажы, як лавіць гэтую рыбу. А ў нашым грамадстве зусім наадварот. Дык і навошта вучыцца "лавіць", калі "рыбу" прыносяць "на сподачку з блакітным пасачкам?" Толькі, на жаль, не для тых.

А справа яшчэ ў тым, што побач з дзецьмі з праблемных сем'яў жывуць дзеці са звычайных сем'яў. І яны бачаць, што клапоцяцца ўсюды больш пра дзяцей, якія, на першы погляд, гэтага не заслугоўваюць. І тут ніякія разважанні не дапамагаюць. Яны бачаць тое, што бачаць. І гэта, на жаль, адмоўна ўплывае на іх свядомасць.

І што нас чакае — здагадацца не цяжка. Няўжо тыя дзеці, якія зараз чакаюць дапамогі ад іншых і лічаць гэта абавязкам нейкіх "іншых", будуць працаваць на карысць грамадства? Свядомасць чалавека закладваецца ж паступова. І вельмі наіўна і неразумна думаць, што калі яны вырастуць, то ўсё зразумеюць і скажуць "дзякуй". Але НАДЗЕЯ нас пакідае апошняй. Хочацца, каб усё было добра!

**Вера СІДАРЭНКА,**
**настаўніца пачатковых класаў, в.Бракава, Магілёўскі раён.**

З чатырохгадовага ўзросту прывівае моладзі любоў да прыгожага народная дзіцячая выяўленчая студыя Палаца культуры прафсаюзаў Брэста, створаная 20 гадоў таму. Хлопчыкі і дзяўчынкі займаюцца тут жывапісам і графікай, скульптурай і керамікай. Многія з іх — пастаянныя ўдзельнікі, дыпламанты і пераможцы як рэспубліканскіх, так і конкурсаў у Германіі, Польшчы, Югаславіі, Індыі і Японіі. Не аднаму свайму выхаванцу студыя дала пуцёўку ў свет мастацтва. Пасля заканчэння навучальных устаноў яны становяцца прафесійнымі мастакамі.

НА ЗДЫМКУ: са сваімі малюнкамі 11-гадовая навучэнка музычнай школы № 4 Вераніка Антаневіч і яе сяброўка з сярэдняй школы № 30 Калініка Мядзведзева не раз выступалі на конкурсе дзіцячай творчасці, які штогод праводзіцца на японскім тэлебачанні. Вераніка стала там уладаркай дыплома і бронзавага медаля, а Калініка заваявала тры сярэбраныя і вялікі залаты медалі.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## Весткі з Побалаўскай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна

### Італія стала бліжэй

Далёкая Італія стала для Побалаўскай школы блізкай і роднай.

Штогод восенню група вучняў і настаўнікаў у складзе 20 чалавек праводзяць 35 — 40 дзён у сонечнай і цёплай краіне. Яны адпачываюць, папраўляюць здароўе.

Не з парожнімі рукамі вяртаюцца пабалаўцы дамоў. У гэтым навучальным годзе, напрыклад, школа атрымала адтуль факс, прадметы, якія садзейнічаюць паляпшэнню навучання і выхавання падрастаючага пакалення, павышэнню якасці ўменняў і навыкаў самастойнага набыцця ведаў.

### Дыплом рэктара БДУ

Дыплом рэктара БДУ А.У.Казуліна прывезла і ўручыла гаспадарам школы на ўрачыстасцях, прысвечаных 50-годдзю першага школьнага выпуску, супрацоўніца кафедры славеснасці, былая выпускніца школы Марыя Раманенка. Рэктар шчыра і сардэчна дзякаваў настаўнікам за добрую і надзейную падрыхтоўку вучняў, якія сталі студэнтамі БДУ.

### Для сваёй сталоўкі

Смачныя і апетытныя стравы рыхтуюцца ў школьнай сталовай для вучняў. Яны самі ў час летніх канікул вырасцілі неблагі ўраджай сельскагаспадарчых культур. Асабліва пастараліся члены вытворчай брыгады і летніка працы і адпачынку.

### У вольны час

Ёсць чым заняцца вучням у вольны час. У школе працуе 19 гурткоў і клубаў па інтарэсах. Асабліва папулярныя гурток "Саломка", "Паэтычны клуб", гурткі "Юны мастак", "Народныя традыцыі і абрады", харэаграфічная група "Сяляначка" і інш. 90 школьнікаў наведваюць музычную школу (дырэктар Сяргей Рэмарчук).

**Васіль МАРКЕВІЧ.**

Дзе фарміруецца чытач?

## "Дайце мне кніжку з малюнкамі. А лепш — малюнкі без кніжкі"

***Што ў наш час змянілася ў паняцці "чытанне"? Што трэба зрабіць, каб чытанне арганічна ўваходзіла ў асабісты свет дзіцяці? Як літаратура фарміруе духоўнае жыццё дзіцяці? Гэтыя і многія іншыя пытанні абмяркоўвалі на семінарах школьныя бібліятэкары Барысава і Барысаўскага раёна разам з супрацоўнікамі цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы.***

Не сакрэт, што галоўныя спажыўцы друкаваных крыніц, асноўныя госці бібліятэк — гэта школьнікі і педагогі. Прычына зразумелая: чытанне мастацкай і спецыяльнай літаратуры неабходна для засваення школьнай праграмы. Вельмі хацелася б думаць, што не толькі таму дзеці наведваюць бібліятэку, але рэальнасць сведчыць, як правіла, пра іншае. І гэта, у рэшце рэшт, таксама няблага.

Трывожыць іншае. Камп'ютэрная і відэакультура ўварваліся ў жыццё дзіцяці, значна пацясніўшы любоў да чытання. Але вось да якіх высноў прыйшоў легендарны кіеўскі вучоны і гіпнатызёр, акадэмік Віктар Кандыба: "Асэнсаванне ўбачанага — перадача інфармацыі з правага паўшар'я галаўнога мозга ў левае і перакадзіраванне яе ў словы — патрабуе часу, а галоўнае — навыку, якога ў дзіцяці няма. Чытанне ж, наадварот, актыўна фарміруе здольнасць левага паўшар'я да абстрагавання. Гэтая вельмі важная якасць чалавека, які чытае, начыста адсутнічае пры разглядванні малюнкаў на экране. У выніку чалавек, які чытае, трансфармуецца ў больш развітую асобу, чым той, хто цалкам аддаецца толькі зрокавым уражанням без асэнсавання ў словах". Адзін з арганізатараў семінараў загадчыца аддзела маркетынгу гарадской цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Ірына Васільеўна Акулава заўважыла:

— Бібліятэка — школа пачатковай літаратурнай адукацыі. Акрамя дапамогі пры выкананні дамашніх заданняў, мы бачым прызначэнне літаратуры ў развіцці духоўнага свету дзіцяці. Новае ж у паняцці "чытанне" тое, што, як канстатуюць спецыялісты, да яго далучылася і паняцце "інфармацыя". Добра гэта ці дрэнна? Напэўна, гэта натуральны працэс. Нядаўна ў Санкт-Пецярбургу прайшоў семінар для бібліятэкараў, педагогаў і іншых спецыялістаў, на якім, акрамя абмеркавання многіх іншых пытанняў, гаварылі і пра работу па адраджэнні сямейнага чытання. Каб прывіць дзіцяці любоў да кнігі, трэба пачынаць з бацькоў. Чытач фарміруецца ў сям'і.

Нядаўнія семінары выклікалі ў школьных бібліятэкараў жаданне сустрэцца яшчэ: так цікава і нефармальна ўсё праходзіла. Акрамя таго, удзельнікі мелі магчымасць скарыстацца прадастаўленай прафесійнай літаратурай па бібліятэчнай справе. Чарговы семінар супрацоўнікі гарадской цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы падрыхтуюць у лютым.

**Алена РАМАНАВА.**

## На дзяржаўным узроўні

***30 студзеня сцэна і глядзельная зала Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы поўніліся высокімі пачуццямі, словамі, кветкамі. Шырокая грамадскасць сталіцы, шматлікія госці з розных куткоў краіны, пасланцы Масквы прыйшлі сюды, каб прывітаць і павіншаваць з 80-гадовым юбілеем славутага айчыннага празаіка, акадэміка, народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна.***

Паяўленне Івана Пятровіча ў ложы тэатра прысутныя прывецілі гарачымі апладысментамі. Сюды юбіляр прыбыў адразу пасля сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, які ўручыў Івану Пятровічу ордэн Айчыны III ступені.

Пранікнёныя словы афіцыйных службовых асобаў перамяжоўваліся з прачулымі выступамі сяброў і калег юбіляра, выступленнямі элітных артыстычных калектываў.

Эмацыянальныя выступленні намесніка прэм'ер-міністра Міхаіла Дзямчука, міністра культуры Рэспублікі Беларусь Леаніда Гулякі і іншых афіцыйных асоб былі прадоўжаны па-пісьменніцку адметнымі словамі вядомага празаіка Масквы Міхаіла Аляксеева, беларускіх літаратараў — пісьменніка Алеся Савіцкага, паэта Міколы Мятліцкага, вядомай артысткі Марыі Захарэвіч, ягоных землякоў з Добрушскага раёна Гомельшчыны — радзімы пісьменніка.

Юбіляр у канцы вечарыны шчыра падзякаваў Прэзідэнту, ураду Рэспублікі Беларусь, сябрам-калегам, прыхільнікам яго творчасці і, як сказаў Іван Пятровіч, "усім добрым людзям", якія наладзілі яго ўшанаванне на дзяржаўным узроўні.

**Наш кар.**

**Міністэрства адукацыі, Рэспубліканская асацыяцыя кіраўнікоў сярэдняй адукацыі паведамляюць аб правядзенні 20-21 лютага семінара "Інавацыйныя педагагічныя тэхналогіі ў кіраванні выхаваўчай работай". Рэгістрацыя ўдзельнікаў семінара — 20 лютага 2001 года з 10 гадзін па адрасу: Мінск, вул. Голубева, 10, гімназія № 12.**

Чытач працягвае размову

# Часцінка нашага жыцця

**Паболей бы нам ва ўзаемінах добразычлівасці, дабрыні, узаемапавагі і ўзаемадапамогі...**

АД КАФЕДРЫ беларускага мовазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага (цяперашні педагагічны універсітэт імя Максіма Танка) я атрымаў запрашэнне на ўрачысты юбілей загадчыка кафедры, доктара філалагічных навук, прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, якому спаўнялася шэсцьдзесят гадоў. Фёдар Міхайлавіч быў не толькі маім цудоўным выкладчыкам (чытаў курс сучаснай беларускай мовы, вёў практычныя заняткі і прымаў дзяржаўныя выпускныя экзамены), але і старэйшым добрым дарадцам, сапраўдным, мудрым настаўнікам, з якім я больш двух дзесяткаў гадоў пасля заканчэння інстытута падтрымліваў цесную сувязь. Бываючы ў Мінску, абавязкова сустракаўся, наведваў яго, бо ён не толькі гневаўся, але і злаваўся, папракаў, калі я яго падчас мінаў з-за нястачы часу. Штогод ён арганізоўваў сустрэчы з былымі сваімі выхаванцамі, а яны заўсёды былі вельмі цікавымі і карыснымі, таму стараўся прыехаць і прыняць актыўны ўдзел. На сустрэчы запрашаў выдатных беларускіх пісьменнікаў і паэтаў і найперш з цяжкім жыццёвым лёсам: Сяргея Грахоўскага, Міколу Аўрамчыка, Міколу Хведаровіча, Янку Брыля, Алеся Бачылу і іншых, а таксама кампазітараў, артыстаў. З нагоды вялікіх святаў абменьваліся віншавальнымі паштоўкамі і пісьмамі.

Менавіта пад яго ўздзеяннем, уплывам, нават пад яго націскам, з ягонымі парадамі я ў 1963 годзе, працуючы дырэктарам сельскай васьмігодкі на Ашмяншчыне, выдаў першую ў Беларусі на роднай беларускай мове кніжку займальнага матэрыялу пад назвай "У вольны час" для дзяцей сярэдняга і старшага школьнага ўзросту. Майму поспеху Фёдар Міхайлавіч вельмі радаваўся і нават ганарыўся мною. А яшчэ больш быў задаволены і рады, калі праз пару гадоў я выдаў другую — пад назвай "Літаратурныя гульні" (выключна толькі па творах беларускіх пісьменнікаў і паэтаў). Затое атрымаў сур'ёзны папрок, нават адчуў гнеў, што чарговую кніжку "Для любознательных" я падрыхтаваў і выдаў у тым жа вучэбна-педагагічным выдавецтве "Народная асвета" на рускай мове. Гэтага ён мне ніяк не мог дараваць і пры выпадку заўсёды выказваў сваю незадаволенасць, нават папрок і крыўдаваў. Дарэчы, Фёдар Міхайлавіч заўсёды, у любым складзе ўдзельнікаў і супрацоўнікаў гаварыў толькі па-беларуску.

Паколькі ў мяне з Фёдарам Міхайлавічам былі такія цесныя сувязі, то, безумоўна, я адразу рашыў: еду, абавязкова прыму ўдзел. І стаў рыхтавацца. Але прайшло ўсяго нейкіх дні тры-чатыры, як я атрымаў паштоўку ад самога юбіляра з кароткім, без каментарыяў і тлумачэнняў, зместам: урачыстасці адмяняюцца. Чаму, па якой прычыне, што здарылася? Гэтае пытанне мяне не толькі цікавіла, але і хвалявала, таму я спяшаўся сустрэцца і ўсё высветліць. А ў гутарках са мною знакаміты прафесар быў заўсёды шчырым, адкрытым, даверлівым.

"Ведаеш, Іване, я сам катэгарычна адмовіўся у парткаме ад усякіх публічных урачыстасцяў з нагоды майго шасцідзесяцігоддзя. Насуперак маім сябрам і калегам па працы. Не хачу, каб людзі крывілі душою, не цярплю. Для сапраўдных сяброў, шчырых, добрасумленных людзей у мяне ў кватэры на працягу больш тыдня былі накрыты сталы і дзверы не зачыняліся. Прыходзілі з віншаваннямі калегі па працы з кафедры, верныя сябры і супрацоўнікі, нават нямала было маіх былых выхаванцаў — настаўнікаў школ з перыферыі", — седзячы за шчодра накрытым сталом у ягонай сціплай, непрафесарскай кватэры, расказваў мне мой цудоўны настаўнік і чалавек. І тут жа падзяліўся ён уражаннем ад аднаго праведзенага ўрачыстага юбілею, што наладзілі ў сценах інстытута: "Аж брыдка было сядзець і слухаць, як на ўсе лады выступоўцы расхвальвалі выкладчыка, які не заслугоўваў і сотай долі таго, што пра яго казалі ў гэты дзень з-за высокай трыбуны. Не цярплю, не пераношу крывадушнасці, няшчырасці, таму і адмовіўся ад яе", — закончыў сваё тлумачэнне юбіляр.

Я невыпадкова прыгадаў гэтую гісторыю, гэты факт, бо ён не толькі праўдзівы, але і тыповы: на такіх урачыстых юбілеях чалавека ўзносяць да нябёсаў, расхвальваюць да прытарнасці, сапраўды крывяць душой. Мне думаецца, што навучыліся мы гэтай крывадушнасці ад юбілеяў былых савецкіх часоў, якія ладзіліся з вялікім шыкам у гонар кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада і транслiраваліся адначасова і па радыё, і па тэлебачанні. Мы многа разоў чулі і бачылі, як чаплялі зоркі Герояў, ордэны і медалі тым, хто быў не вартым іх, і як іх на ўсе лады ўслаўлялі і расхвальвалі, узвялічвалі. Мусіць, невыпадкова таму кінастужка "Старики-разбойники", якую прыгадаў Алег Куліцкі ў сваім вельмі надзённым, важным і праўдзівым артыкуле "Ад чаго не ўцячэш...", змешчаным пад рубрыкай "На мой погляд" у сто трыццатым нумары "Настаўніцкай газеты" за 9 снежня 2000 года, так падабаецца гледачам, бо яна праўдзіва адлюстроўвае часцінку нашага жыцця. Яна ўзята з яго. Гэта шчырая жыццёвая камедыя.

"Ад чаго не ўцячэш..." — лепшай, на мой погляд, як гэта зрабіў Алег Куліцкі, найбольш дасканалай назвы артыкулу і не прыдумаць. Праўдзівая. Сапраўды, кожны чалавек, калі яму суджана ад Бога, праходзіць свой адрэзак жыццёвага існавання, якое называем старасцю. Пра гэта, я лічу, трэба помніць найперш тым, хто адносіцца да ліку кіраўнікоў, бо жыццё і іх прымусіць прайсці гэты адрэзак. І дай Божа, каб як найбольшая колькасць і кіраўнікоў living рознага ўзроўню, і іх шматлікія падначаленыя яго праходзілі — дажывалі да глыбокай старасці.

Я не выпадкова акцэнтую ўвагу на тым, што кожны кіраўнік любога рангу павінен памятаць — і ён не будзе вечна маладым, і да яго неўпрыкмет падкрадзецца старасць, і што менавіта ад іх, як ад прадстаўнікоў дзяржавы, залежаць лёс і доля педагогаў-пенсіянераў. На жаль, як сведчыць практыка, пахваліцца, парадавацца няма чым...

Мяне асабліва хвалюе вось што: чаму людзі пенсійнага ўзросту падзелены на "чорных" і "белых"? Адных з работы выганяюць прымусам, хоць памер пенсіі ім не дае магчымасці нават пракарміцца, а не тое, каб нешта купіць з прадметаў хатняга ўжытку, ласункаў ці гульняў унукам, адзення ці абутку, тады як другія, пэўна ж, з пенсіяй удвая-утрая большай, маюць права не толькі працаваць, але і займаць высокія пасады?

Дазволю сабе запярэчыць аўтару артыкула толькі ў адным пытанні, бо ва ўсім астатнім я з ім цалкам згодзен. Мне здаецца, што на "кадравы кліч" паехаць працаваць у сельскую глыбінку Хойніцкага ці Брагінскага раёнаў, якія пацярпелі ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адгукнуліся настаўнікі пенсійнага ўзросту не з-за патрыятычных пачуццяў. Не той час, не той розум, не тыя гады, не той вопыт. Не. Я лічу, што сюды яны адправіліся працаваць, каб зарабіць нейкую лішнюю капейку і матэрыяльна дапамагчы, падтрымаць сваіх дзяцей ці ўнукаў, кіруючыся выслоўем: "А колькі таго засталося жыцця". Бо штосьці адарваць ад пенсіі на карысць дзяцей проста няма ніякай магчымасці, а дапамагчы бацькі вельмі хочуць, таму і прыносяць у ахвяру нават сваё здароўе ці, больш таго — жыццё. Перакананы на ўсе сто працэнтаў: калі б пенсіянеры-педагогі атрымлівалі пенсію, памер якой дазваляў годна дажываць, харчавацца, адпачываць, лячыцца, то ні адзін з іх не трымаўся б работы, не прасіў бы яе, а назаўтра ж з радасцю пакінуў бы сцены школы, цёпла развітаўся б і з дзецьмі, і з калегамі па працы, не чакаючы заканчэння ці чвэрці, ці навучальнага года. Не было б ні крыўдаў, ні скаргаў, ні незадаволенасці з іх боку, што бачым мы цяпер.

Алег Куліцкі лічыць, што пераход на пенсійны хлеб больш балючы ў мужчын, чым у жанчын, і тлумачыць, чаму ён робіць такі вывад. Калі браць у цэлым, агульна, то можна пагадзіцца, аднак не цалкам. Мне думаецца, найперш гэта залежыць ад асобы і ад умоў, у якіх чалавек жыве. Сапраўды, калі надышоў час не выходзіць на работу, а дома ў пенсіянера няма да чаго прыкласці рукі — ні курэй, ні цяляці, ці парасяці, ні пчолак, то, безумоўна, можна страціць розум, здурнець ад раптоўнай бяздзейнасці, звар'яцець. Ну, а калі работа ў школе спалучалася з вядзеннем уласнай гаспадаркі, якая лічылася як даходны промысел, то гэта найперш датычыць педагогаў-пенсіянераў вёскі, і такім людзям значна лягчэй развітвацца са школай.

Мо я і не маю рацыі, аднак, як часта гавораць ды пішуць у газетах, скажу так, як думаю. Гэта ўласныя мае разуменне і вывад. Чытач мае права пагадзіцца са мной ці, наадварот, — не пагадзіцца. "Дабіваю" сорак пяты год на педагагічнай ніве, з іх 39 аддадзены дзіцячаму дому і школе-інтэрнату (22 гады працаваў завучам і дырэктарам), шэсць гадоў быў дырэктарам васьмігодкі, таму маю падставу і права зрабіць гэтую выснову. Я лічу, што работа ў звычайнай школе і ў школе-інтэрнаце ці ў дзіцячым доме вельмі адрозніваецца ў псіхалагічным плане, у сваёй разнастайнасці. Педагогі школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў — гэта члены адной вялікай сям'і з яе праблемамі, турботамі, здабыткамі, поспехамі, радасцямі, няўдачамі і г.д. Дзяцей, як і ўласных, трэба штодня вечарам пакласці спаць, а раніцай разбудзіць, накарміць, падрыхтаваць да ўрокаў, прасачыць, каб кудысьці не ўлезлі і не нарабілі бяды. І ўявіце сабе: педагог раптоўна пазбаўляецца гэтай сям'і, усіх клопатаў, шуму-гаму, дзяцей, да якіх за дзесяцігоддзі прывык, зжыўся з імі. Хіба гэта не стрэс, хіба не адаб'ецца ён на стане здароўя, нервовай сістэме? Безумоўна, у звычайнай школе ў гэтых адносінах хоць крышку лягчэй, бо іншыя ўмовы жыцця і працы. І, мусіць, лягчэй і развітвацца.

Развітанне з педагогамі-пенсіянерамі ў апошнія гады, прама скажам, самае дрэннае ў пераважнай большасці школ, што выклікае справядлівае незадавальненне, крыўду з іх боку, нават скаргі. А ўсё ж можна і трэба рабіць па-чалавечы, хораша, шчыра, не так, як у "Стариках-разбойниках" ці як у той гісторыі, аб якой я гаварыў у самым пачатку.

Мне вельмі спадабалася, што Алег Куліцкі сумеў убачыць "дваццаціпяцігадовых старых і сямідзесяцігадовых маладых", зрабіць сваю выснову і выказаць сваё меркаванне: "Я мяркую так: розныя ёсць і маладыя, розныя ёсць і старыя. Стаўленне да сваёй працы, на мой погляд, залежыць не ад даты нараджэння ў пашпарце чалавека". Стопрацэнтная, чыстая праўда, у якой я на працягу шматгадовай педагагічнай практыкі пераконваўся многа разоў. Так што лозунг "Дарогу — маладым!", а старыя, маўляў, на сметнік, трэба ўспрымаць не агулам, а дыферэнцыявана, разумна, разважліва, абгрунтавана, каб не нарабіць памылак і затым не каяцца. Лепей спалучыць маладосць з вопытам — вынікі будуць лепшымі.

Хацелася б, каб чытачы не ўспрынялі мой допіс як крыўду маю ў адрас ці то кіраўнікоў школы, ці то аддзела адукацыі або калег па працы. Адносіны да людзей пенсійнага ўзросту (і ўвогуле ўзаеміны між людзьмі) агульнавядомыя, і яны хвалююць. Чагосьці падобнага нават у самыя цяжкія пасляваенныя гады не было, не назіралася. Было болей шчырасці, добразычлівасці, дабрыні, узаемапавагі, узаемадапамогі. Нават, успамінаю, у мае студэнцкія гады (пачатак пяцідзесятых) у нашым педагагічным інстытуце існавала каса ўзаемадапамогі, у якой без усякіх працэнтаў студэнт мог атрымаць пэўную суму грошай, каб набыць ці нейкую патрэбную рэч, ці дацягнуць да стыпендыі, а затым разлічыцца. У вёсках сусед да суседа бегаў ухапіць жару, каб распаліць уласную печ (прэцца, як жару ўхапіўшы — бытуе ў народзе выслоўе і сёння), пазычыць нешта, пасядзець, пагаварыць у вольны зімовы вечар і г.д. Шкада, што ўсё гэта разам са стагоддзем адышло ў гісторыю. А можа, з цягам часу нешта і вернецца ў новым стагоддзі і тысячагоддзі? Мо вернуцца і паважлівыя адносіны да тых людзей, хто набыў статус пенсіянера? Я чамусьці веру ў гэта.

**Іван ГОВАР,**
**ветэран педагагічнай працы.**

Служыць — Радзіме!

# Клятва ў цытадэлі над Бугам

***Аддаць даніну светлай памяці абаронцам цытадэлі над Бугам — Брэсцкай крэпасці — прыйшлі ў апошнюю нядзелю студзеня маладыя салдаты. Мотастралкі і танкісты, дэсантнікі і ракетчыкі, артылерысты і сувязісты, воіны іншых спецыяльнасцей са зброяй у руках прынялі ваенную прысягу. Свяшчэнную клятву на зямлі, багата палітай крывёю сваіх дзядоў і прадзедаў, далі больш як 800 нававабранцаў. У гэты ж дзень каля 12 тысяч маладых салдат у розных кутках Беларусі таксама гаварылі свяшчэнныя словы клятвы на адданасць свайму народу.***

Удзел у рытуале прыняцця ваеннай прысягі стаў добрай традыцыяй для кіруючага састава Узброеных Сіл нашай дзяржавы. На гэты раз міністр абароны генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў выбраў Брэсцкі гарнізон. Ён прыехаў сюды загадзя і пабываў у 115-й зенітна-ракетнай брыгадзе, якой камандуе падпалкоўнік Сяргей Лемяшэўскі. Кіраўнік ваеннага ведамства пабываў на камандным пункце злучэння і ў адным з зенітна-ракетных дывізіёнаў. Баявая работа разлікаў, нясенне ўсіх відаў службы, забяспечанасць ракетчыкаў усім неабходным для жыццядзейнасці і выканання задач, размовы з асабістым саставам былі ў цэнтры ўвагі візіту напярэдадні прыняцця прысягі.

Надвор'е ў нядзелю было сонечным і цёплым, як на заказ. Яно быццам спрыяла ўрачыстаму воінскаму рытуалу. Як стометровы штык-абеліск, у гатоўнасці прыняць прысягу застылі салдаты. Аддаючы даніну свяшчэннаму подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці, перад пачаткам прыняцця прысягі міністр абароны ўсклаў кветкі да Вечнага агню. Роўна ў 10 гадзін ён прыняў даклад начальніка Брэсцкага гарнізона аб гатоўнасці маладога папаўнення да прыняцця ваеннай прысягі і звярнуўся да ўсіх, хто сабраўся ў Брэсцкай крэпасці. Ён прыгадаў асаблівую важнасць прысягі для кожнага вайскоўца. Галоўны сэнс гэтай клятвы — свята выконваць Канстытуцыю, законы і воінскія статуты. Служба салдата цяпер будзе цалкам вызначацца патрабаваннямі воінскіх статутаў, устаноўленых правілаў і загадаў.

Адзін за другім падыходзяць воіны да сталоў, накрытых тканінай чырвонага колеру. У адной руцэ — папка з тэкстам прысягі, у другой — аўтамат. Дае клятву, хвалюецца, перажывае юнак. За кожным назіраюць сотні вачэй, шукаючы перш за ўсё свайго Ваню, Пецю, Максіма, Віталія, Андрэя...

Міністр абароны падыходзіць да бацькоў, родных і блізкіх маладых салдат. У прыязнай размове ловяць яны кожнае яго слова аб арміі, яб яе буднях і справах. А на просьбу бацькоў берагчы салдат ён сказаў: "Як міністр абароны я адказваю перад вамі за вашых сыноў. Мы робім усё для таго, каб яны добра харчаваліся, каб у воінскіх калектывах былі парадак, дружба і сяброўства. Таму прашу вас вырашаць праблемы толькі разам." А Людміла Аляксандраўна Вайтовіч з сынам Жэнем змаглі нават сфатаграфавацца на памяць з міністрам. Задаволенай ад сустрэчы з ім засталася і Святлана Уладзіміраўна Сінькевіч з Ганцавічаў. Як у гэты дзень было напоўнена яе сэрца шчасцем і радасцю за сына, які стаў дэсантнікам мабільнай брыгады!

Прыйшоў час віншаванняў. Да воінаў звяртаюцца старшыня Брэсцкага абласнога савета дэпутатаў Леанід Лемяшэўскі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны палкоўнік у адстаўцы Нікандр Сакалоў, настаяцель Свята-Мікалаеўскага гарнізоннага сабора айцец Ігар, маці маладога салдата Таццяна Цымбалава і радавы Дзмітрый Калішчук, які толькі што даў клятву. У кожным іх усхваляваным слове — самыя добрыя і шчырыя пажаданні ў службе, салдацкай дружбе і воінскім майстэрстве. Пасля слоў ветэрана салдаты знялі фуражкі, апусціліся на калені і хвілінай маўчання ўшанавалі памяць тых, хто застаўся ў крэпасці назаўсёды. Гадзіннік лічыць секунды... На сэрцы — памяць, трывога і гордасць. "Я паміраю, але не здаюся! Бывай, Радзіма!" — пісалі байцы крывёю на сценах крэпасці. "...Прымаю прысягу і ўрачыста клянуся высока несці гонар і чэсць воіна Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, добрасумленна авалодваць ваеннай справай, быць мужным і самаадданым абаронцам свайго народа..." — такі адказ сённяшняга пакалення. У гэтых хвалюючых словах заключаны вялікі патрыятычны сэнс.

Гэты сонечны студзеньскі дзень у Брэсцкай крэпасці не забудзецца ніколі. Сваімі сэрцамі перад роднымі і блізкімі юнакі далі свяшчэнную і непахісную клятву салдата.

**Леанід ПРЫШЧЭПА.**
**Прэс-служба Міністэрства абароны.**

НА ЗДЫМКУ: "Клянёмся табе, Айчына!" (у цэнтры — міністр абароны, генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў).

# За сродкі шэфаў

***Цесныя сувязі з сярэдняй школай № 10 Слоніма падтрымлівае калектыў акцыянернага таварыства "Камвольна-прадзільная фабрыка" — самага буйнога прадпрыемства горада. За сродкі шэфаў значна ўмацавана матэрыяльна-тэхнічная база школы, у якой вучыцца большасць дзяцей работнікаў фабрыкі.***

На пачатак гэтага года фінансавая сітуацыя на фабрыцы — складаная. Але гэта часовая з'ява, і сувязі не аслаблі. Нядаўна на фабрыцы прайшоў традыцыйны Дзень школы. Размова ішла адкрытая, шчырая. Гаварылі аб вучобе дзяцей, развіцці іх здольнасцей, высвятляліся адносіны да іх у сем'ях.

У сустрэчы ўдзельнічалі дырэктары школы і фабрыкі Л.І.Еўтушэнка і В.В.Галіч, іншыя кіруючыя работнікі з абодвух бакоў, псіхолаг школы Т.Б.Захаранка, сацыяльны педагог А.П.Якіменка, класныя кіраўнікі 5 — 11 класаў.

Бацькі вучняў даведаліся пра поспехі дзяцей не толькі ў вучобе, але і на розных алімпіядах.

У школе даўно дзейнічае савет бацькоў, ёсць савет прафілактыкі, іншыя грамадскія арганізацыі. І яны працуюць — у выніку летась не было ўчынена ні аднаго злачынства вучнямі школы.

Сустрэча закончылася выступленнем клуба вясёлых і знаходлівых, прысвечаным актуальнай тэме — адносінам бацькоў і дзяцей.

**Сяргей ПРАСНЯК.**

Сталічная адукацыя

# Што пад сілу маладым

***Штодзень у нашай школе праходзіць шмат урокаў. Некаторыя з іх нудныя, але ж мы на іх ходзім, бо інакш нельга. Але ёсць урокі, на якія мы бяжым з вялікай радасцю, бо ведаем, што настаўнік ізноў прыдумае штосьці цікавае, узніме ўсім настрой, і ў той жа час мы атрымаем веды. Адзін з самых любімых урокаў — біялогія. Здавалася б, каму могуць падабацца гэтыя непрыглядныя храмасомы, інфузорыі-туфелькі, біястамеры і інш. І толькі наша паважаная і ўсімі любімая Наталля Васільеўна Бахціна можа прывіць любоў да ўсяго гэтага. Калі яна, напрыклад, тлумачыць тэму "Формы размнажэння арганізмаў", дык здаецца, што нічога няма больш цікавага ў біялогіі за гэтую тэму. І такое на кожным уроку. Вучыцца ў Наталлі Васільеўны — адно задавальненне.***

***Самае цікавае ў методыцы выкладання нашай настаўніцы тое, што, задаючы хатняе заданне, яна не абмяжоўвае нас вывучэннем сухіх параграфаў, цяжкіх канспектаў, а прапаноўвае творчыя заданні: скласці крыжаванку па вывучаемай тэме ці напісаць рэферат, правесці даследаванне. Аднойчы настаўніца задала нам наступнае: прыдумаць задачу па генетыцы, толькі не звычайную, а цікавую, неардынарную. Спачатку мы крыху разгубіліся, але атрымалася ўрэшце добра. Многія вучні паказалі свае выдатныя веды па прадмеце і свае творчыя здольнасці. Цяпер мы можам павіншаваць настаўніка, бо гэта вынік яго карпатлівай працы і бязмежнай любві да дзяцей. Наша Наталля Васільеўна дамаглася такога значнага поспеху, таму яе справядліва можна назваць Настаўнікам з вялікай літары.***

**Таццяна ПУХАЛЬСКАЯ,**
**вучаніца 11 класа сярэдняй школы № 47 Мінска.**

Няма для настаўніка лепшай узнагароды за сваю працу, чым вось такія словы вучня. Наталля Васільеўна пачынае ўся свяціцца, калі паказвае вершы, расказы, якія склалі пра яе дзеці. Гэта вучнёўскі адказ на яе стараннi і любоў. Відаць, што сапраўды шмат чаму навучыла сваіх вучняў Наталля Васільеўна, калі яе вучаніца Таццяна так добра апісала працэс творчасці сваёй настаўніцы. Дырэктар школы ці яго намеснік сказалі б пра работу Н.В.Бахцінай тое ж самае, але крыху іншымі словамі. Што Наталля Васільеўна працуе ў 47-й школе другі год, а яе агульны педагагічны стаж складае тры гады. За такі невялікі час яна паказала сябе як таленавіты, ініцыятыўны педагог. Мае яна добрую тэарэтычную і метадычную падрыхтоўку, увесь час цікавіцца навінкамі ў педагогіцы і псіхалогіі. Яе ўрокі носяць нетрадыцыйны характар. Для аптымізацыі вучэбнай дзейнасці настаўніца выкарыстоўвае гульневыя моманты. На ўроках Наталлі Васільеўны заўсёды прысутнічаюць узаемаразуменне і добразычлівасць. Настаўніца дапамагае дзецям пераадольваць няўпэўненасць у сабе, ствараючы ўмовы поспеху і звязаных з ім станоўчых пачуццяў. Наталля Васільеўна дае сваім выхаванцам такія заданні, якія ім па сіле і па магчымасцях. Стараецца знайсці такія віды дзейнасці, калі вучні могуць праявіць ініцыятыву і заваяваць прызнанне ў дзіцячым калектыве. Настаўнік заўсёды фіксуе, адзначае і заахвочвае любыя поспехі ў вучобе дзяцей.

## Хто ідзе ў "бой"

Добрую традыцыю захаваў у сябе Ленінскі раён сталіцы. Штогод тут праводзяць конкурс "Настаўнік года". І, як сказала загадчык аддзела адукацыі раёна М.У.Сарока, конкурс мае на мэце паказаць майстэрства настаўніка, у якога іншыя маглі б павучыцца. Конкурс — гэта своеасаблівая педагагічная майстэрня.

Хто будзе прадстаўляць 47-ю школу на раённым конкурсе "Настаўнік года", у школе вырашалася на метадычным савеце. Умовы і мэты конкурсу падказалі, які патрэбна зрабіць выбар — вылучаць моладзь.

— Як бы мы гэтага ні хацелі, — разважае Валянціна Васільеўна Парутчыкава, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце школы, — але жыццё пацвярджае, што вялікі педагагічны стаж прытупляе творчасць. Настаўнік з 20-гадовым стажам працуе па традыцыйных методыках, у яго ўжо свае, правераныя прыёмы ў рабоце. У вопытнага настаўніка — прадуманыя і прыгожыя ўрокі, добрыя паказчыкі паспяховасці, высокі ўзровень выхаванасці вучняў, яны выдатна валодаюць дзіцячым калектывам. Паказаць гэта ўсё ва ўмовах конкурсу немагчыма. Ды і навошта? Такія настаўнікі — ужо прызнаныя аўтарытэты.

Конкурс не бярэ пад увагу ні стаж, ні катэгорыі, ні заслугі. Конкурс павінен сабраць цікавыя знаходкі, новыя напрацоўкі, яму патрэбны маладыя таленты, свежыя і неардынарныя думкі. Гэта можа зрабіць наша моладзь.

Меркаванне Валянціны Васільеўны падтрымалі ўсе вопытныя настаўнікі школы. Пасля чаго разам пачалі дапамагаць маладой настаўніцы рыхтавацца да конкурсу. Увогуле мне расказалі, што ў 47-й школе ёсць такі парадак: калі да іх прыходзіць моладзь, то адразу пачынае працаваць "Школа маладога настаўніка", дзе старэйшыя навучаюць маладых педагагічным прамудрасцям, перасцерагаюць ад памылак. Напрыканцы вучобы маладыя настаўнікі даюць заліковыя ўрокі.

Заліковы ўрок Наталлі Васільеўны Бахцінай адыграў вялікую ролю ў тым, што педагагічны калектыў школы вылучыў, абраў, даверыў ёй выступаць ад яго імя на раённым конкурсе "Настаўнік года". Урок Наталлі Васільеўны быў пабудаваны ў форме гульні, гэта было і цікава, і нязвыкла, і запамінальна. Старэйшыя настаўнікі падтрымалі сваю маладую каляжанку, яны дадалі ў гэты ўрок свой вопыт, сваё майстэрства, пасля чаго ён стаў яшчэ больш выйгрышным.

## Вернем у школу гульню

Пасля такога ўрока дзецям ужо не трэба будзе паўтараць шмат разоў, што рукі, перад тым як есці, неабходна мыць, што нельга ўжываць нямытую садавіну і гародніну, што ваду трэба піць пасля кіпячэння, а мяса і рыбу есці толькі вараныя ці смажаныя. На сённяшнім уроку па біялогіі 8 "А" клас 47-й школы стварыў сваё міністэрства крымінальных спраў, дзе адзін з яго аддзелаў разглядаў справу аб забойстве чалавека. Адважнымі следчымі было выяўлена, што смерць наступіла па прычыне задушэння. Было ўстаноўлена, што ў арганізм чалавека праз ротавую поласць пранiклі аскарыды тыпу "круглыя чарвякі", якія затым размножыліся і праз кроў трапілі ў лёгкія. Работнікі аддзела вызначылі прыкметы абвінавачваемых. Пасля чаго тыя былі злоўлены і за ўсе страшэнныя злачынствы пакараны смерцю. Вось так 8 "А" пад кіраўніцтвам сваёй настаўніцы біялогіі выратаваў школу ад распаўсюджвання шкоднай аскарыды чалавечай.

Мэта дасягнута — вучні добра засвоілі меры прафілактыкі захворвання аскарыдамі, яны ведаюць, як гэты чарвяк развіваецца ў арганізме чалавека, і бачылі яго на свае вочы. Мэта дасягнута, таму васьмікласнікі атрымліваюць добрыя адзнакі. А што паставіць журы конкурсу настаўніцы за такі ўрок?

Наталля Васільеўна Бахціна, настаўніца біялогіі 47-й школы, лічыць важным у сваёй рабоце захапіць дзяцей прадметам, каб яны самі цікавіліся і шукалі інфармацыю па біялогіі. Гэтага можна дабіцца праз нестандартныя ўрокі. Вось сёння дзеці паказвалі ўрок-гульню, дзе яны пераўвасабляліся і выступалі ў новых ролях. Да такога ўрока ішла вялікая падрыхтоўка. Падчас вывучэння тэмы "Круглыя чарвякі" Наталля Васільеўна прапанавала вучням падрыхтаваць творчыя праекты да правядзення абагульняючага ўрока па тэме. Было вызначана, што ён будзе праходзіць у форме гульні, прадстаўлення. Васьмікласнікі падрыхтавалі свае сцэнарыі, разам абралі лепшы з усіх, які і ператварыўся затым у гэты урок. Калі ў канцы ўрока настаўніца праводзіла рэлаксацыю і пыталася, што дзецям больш за ўсё спадабалася сёння на занятках, то ўсе гаварылі пра пабудову ўрока, пра гульню. Што і казаць, гуляць у гульні любяць як дзеці, так і дарослыя. Навукоўцамі было адзначана, што чалавек, які ў школьныя гады прайшоў праз ролевыя гульні, больш падрыхтаваны да творчай дзейнасці, гібкіх і разам з тым мэтанакіраваных паводзін. Мабыць таму і чуваць у апошні час заклік, што ў школу трэба вяртаць гульню.

Наталля Васільеўна лічыць, што для абагульняючага ўрока ідэальна падыходзіць гульневая форма. Тут спрацоўваюць шэсць правілаў запамінання. Вучні доўгі час рыхтуюцца да абагульняючага ўрока — яны паўтараюць пройдзены матэрыял, шукаюць дадатковыя крыніцы інфармацыі, абагульняюць свае веды і рыхтуюць сцэнарый, у якім былі б задзейнічаны па тэме ўсе. Затым ужо на самім уроку ідзе чарговае замацаванне-паўтарэнне матэрыялу праз новую форму работы над ім, праз нагляднасць і інш. Усё гэта прыводзіць да якаснага і доўгачасовага запамінання інфармацыі. Да таго ж не трэба забывацца, што дзеці — у задавальненні ад такой вучобы.

"Мы сёння пабачылі, — гаворыць В.В.Парутчыкава, — як нам трэба змяняць нашу працэдуру ўрока. Нашы дзеці заціснуты рамкамі традыцыйных урокаў, пабудаваных па прынцыпе "пытанне — адказ". У Наталлі Васільеўны іншы стыль паводзін на занятках. Яна стварае сітуацыю, калі вучань навучаецца сам, а настаўнік кіруе гэтым працэсам, а таксама ён — арганізатар, каардынатар і кансультант. Урок-гульня — гэта калі ўсе яго ўдзельнікі разам вызначаюць крытэрыі ацэнкі дзейнасці, правільна фармулююць пытанні, робяць аналіз. На ўроку арганізаваны ўзаемны кантроль па абраных накірунках, самасправаздачы і ўзаемнае навучанне. Ролевая гульня выкарыстана настаўнікам як сродак арганізацыі негульневай дзейнасці.

Наталля Васільеўна актыўна займаецца праблемай адаптацыі вучэбнага працэсу да патрэб сваіх вучняў, укараненнем тэхналогій развіццёвага навучання, у прыватнасці гульневай тэхналогіі. Да таго ж настаўніца робіць гэта не шляхам спроб і памылак, а шляхам засваення тэарэтычных асноў інавацыйных працэсаў.

За гэты ўрок Н.В.Бахцінай, на маю думку, можна паставіць высокую адзнаку. Наталля Васільеўна як малады і творчы педагог чакае ад журы не проста ацэнкі за ўрок, але і аналізу, і парад. Бо ўжо пасля таго як урок адбыўся, яна перажывала, што не ўсё атрымалася так, як задумвалася. Дзеці былі нейкія заціснутыя, ненатуральныя, хоць на іншых уроках біялогіі з імі заўсёды весела, цікава. Можа іх напалохала вялікая колькасць назіральнікаў? Але ж нягледзячы на гэта настаўніца задаволена сваімі вучнямі і вельмі ім удзячна, як удзячна і калегам, якія ёй дапамаглі.

"За гэтыя некалькі тыдняў конкурсу, мне здаецца, я стала іншай, — прызнаецца Наталля Васільеўна. — Я нават вырасла ў вачах сваіх вучняў. Я здаюся сабе мацнейшай. Цяпер я ведаю меркаванні пра сябе сваіх вучняў, калег. Я ўбачыла тыя памылкі, якія рабіла ў сваёй рабоце. Дзякуй за гэта конкурсу. Ці ж можна было жадаць яшчэ чаго-небудзь ад яго?!"

**Святлана КІРСАНАВА.**

ПАСТАНОВА МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ад 30 11 2000 г. №55

# Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Палажэнне аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя ВНУ) Рэспублікі Беларусь

На падставе Палажэння аб Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1997 г. №361, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

**ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

Унесці ў Палажэнне аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя ВНУ) Рэспублікі Беларусь, зацверджанае загадам міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь ад 7 снежня 1995 г. №456 "Аб зацвярджэнні Палажэння аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя ВНУ) Рэспублікі Беларусь і Палажэння аб кваліфікацыйным экзамене" (зарэгістравана ў Рэестры дзяржаўнай рэгістрацыі 15 снежня 1995 г. №1187/12), змяненні і дапаўненні і выкласці яго ў новай рэдакцыі:

"ЗАЦВЕРДЖАНА"
загад міністра адукацыі і навукі
Рэспублікі Беларусь 7.12.1995 г. №456
(у рэдакцыі пастановы Міністэрства
адукацыі Рэспублікі Беларусь
30.11.2000 г. №55)

## Палажэнне аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя вышэйшых навучальных устаноў) Рэспублікі Беларусь

### ГЛАВА 1

### Агульныя палажэнні

1. Палажэнне аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя вышэйшых навучальных устаноў) Рэспублікі Беларусь (далей — Палажэнне) распаўсюджваецца на ўсе ўстановы адукацыі незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці і формы ўласнасці.

2. Мэтай атэстацыі педагагічных работнікаў з'яўляецца стымуляванне росту іх навукова-тэарэтычнага ўзроўню, прафесійнага майстэрства, развіцця творчай ініцыятывы, павышэння іх прэстыжу і аўтарытэту.

3. Асноўнымі прынцыпамі атэстацыі педагагічных работнікаў з'яўляюцца: калегіяльнасць, сістэмнасць, цэласнасць экспертных ацэнак, якія забяспечваюць аб'ектыўныя, карэктныя, гуманныя адносіны да педагагічных работнікаў.

4. Пры атэстацыі педагагічных работнікаў вызначаюцца ўзровень кваліфікацыі, вынікі працоўнай дзейнасці, іх дзелавыя і асабістыя якасці, робяцца вывады аб прысваенні, пацвярджэнні ці зніжэнні кваліфікацыйных катэгорый.

5. Вынікі атэстацыі педагагічных работнікаў з'яўляюцца асновай іх дыферэнцыраванай аплаты працы.

6. Атэстацыя педагагічнага работніка праводзіцца па кожнай займаемай ім пасадзе.

### ГЛАВА 2

### Атэстацыйная камісія, яе склад

7. Атэстацыя педагагічных работнікаў праводзіцца ва ўстанове адукацыі. Для яе правядзення на сходзе педагагічнага калектыву, на якім павінна прысутнічаць больш за палову педагагічных работнікаў, шляхам тайнага галасавання выбіраецца атэстацыйная камісія ў складзе не менш, чым з пяці членаў. Абранымі ў яе могуць быць, як правіла, педагогі вышэйшай і першай катэгорыі. якія атрымалі большую колькасць галасоў членаў педагагічнага калектыву, што прынялі ўдзел у галасаванні.

8. У склад атэстацыйнай камісіі ўключаюцца дадаткова па адным прадстаўніку адміністрацыі і прафсаюзнага камітэта ўстановы адукацыі.

9. Асобы, якія праходзяць атэстацыю ў перыяд работы камісіі, не могуць уваходзіць у яе склад.

10. Персанальны склад камісіі афармляецца загадам кіраўніка ўстановы адукацыі і да 1 кастрычніка павінен быць даведзены да ведама педагагічных работнікаў. У рабоце атэстацыйнай камісіі з правам рашаючага голасу могуць прымаць удзел па адным прадстаўніку вышэйстаячых органаў кіравання адукацыяй і камітэтаў прафсаюза.

11. Для атэстацыі педагагічных работнікаў устаноў адукацыі, у якіх з-за малой колькасці педагагічных работнікаў немагчыма стварыць атэстацыйную камісію ў азначанай колькасці і для разгляду канфліктных сітуацый, ствараюцца атэстацыйныя камісіі органаў кіравання адукацыяй. Пералік устаноў адукацыі, работнікі якіх атэстуюцца гэтымі камісіямі, вызначаецца загадам кіраўніка органа кіравання па ўзгадненні з адпаведным органам прафсаюза.

Атэстацыйная камісія органа кіравання адукацыяй у складзе не менш чым з 7 чалавек ствараецца яго кіраўніцтвам з ліку прадстаўнікоў падведамных устаноў адукацыі і метадычных службаў. У склад камісіі ўключаецца па адным прадстаўніку органа кіравання і адпаведнага камітэта прафсаюза. Персанальны склад камісіі афармляецца загадам органа кіравання адукацыяй і да 1 кастрычніка даводзіцца да ведама работнікаў усіх падначаленых устаноў адукацыі.

12. Тэрмін паўнамоцтваў атэстацыйнай камісіі адзін год, лічачы ад даты афармлення загада аб яе стварэнні.

### ГЛАВА 3

### Парадак правядзення атэстацыі

13. да атэстацыі дапускаюцца педагагічныя работнікі, якія маюць адукацыю ў адпаведнасці з тарыфна-кваліфікацыйнымі характарыстыкамі і стаж работы на адпаведнай пасадзе 2 гады, а для першай і вышэйшай кваліфікацыйных катэгорый — стаж работы ў атрыманай раней катэгорыі — 3 гады. Пры гэтым улічваецца час работы на пасадах, якія былі перайменаваны ва ўстаноўленым парадку.

Дазваляецца праходзіць атэстацыю асобам, якія маюць стаж работы на адпаведнай пасадзе 1 год, пры ўмове, што ім прысвоена вучоная ступень ці званне, ступень бакалаўра ці магістра, або яны атрымалі дыплом з адзнакай пасля заканчэння вышэйшай навучальнай установы.

14. Работнікі, якія не маюць спецыяльнай падрыхтоўкі, устаноўленай тарыфна-кваліфікацыйнымі характарыстыкамі (у тым ліку тыя, хто мае адукацыю ў аб'ёме педагагічных класаў), але якасна выконваюць ускладзеныя на іх службовыя абавязкі, павышаюць сваю кваліфікацыю і ў якіх стаж работы на пасадзе, па якой яны атэстуюцца, складае не менш, як 3 гады, праходзяць атэстацыю ва ўстаноўленым гэтым Палажэннем парадку.

15. Асобам, якія маюць сярэднюю агульную адукацыю, не можа быць прысвоена кваліфікацыйная катэгорыя.

16. Кіраўнікі ўстаноў адукацыі, работнікі органаў кіравання адукацыяй і метадычных службаў, а таксама спецыялісты народнай гаспадаркі, якія маюць педагагічную нагрузку, праходзяць атэстацыю на прысваенне кваліфікацыйнай катэгорыі ва ўстаноўленым гэтым Палажэннем парадку.

17. Са згоды педагагічнага савета адміністрацыя ўстановы адукацыі мае права патрабаваць адзін раз у пяць гадоў абавязковай атэстацыі педагагічных работнікаў, якія знізілі ўзровень сваёй работы. Такая атэстацыя не можа прымяняцца да работнікаў, якія працавалі менш за два гады з моманту папярэдняй атэстацыі, цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў. Калі работнік без уважлівых прычын адмаўляецца прайсці атэстацыю, то яна можа быць праведзена і ў яго адсутнасць.

18. Прысваенне кваліфікацыйных катэгорый (другой, першай, вышэйшай) ажыццяўляецца паслядоўна.

19. Для прэтэндэнтаў на вышэйшую катэгорыю атэстацыя складаецца з кваліфікацыйнага экзамену і атэстацыйнай гутаркі.

Экзамен папярэднічае гутарцы і праводзіцца ў апаведнасці з Палажэннем аб кваліфікацыйным экзамене. Педагагічны работнік можа здаваць экзамен у час праходжання чарговых курсаў павышэння кваліфікацыі, пасля спецкурсаў па паглыбленні ведаў па асобных напрамках педагагічнай дзейнасці ці экстэрнам.

20. Ад абавязковай здачы кваліфікацыйнага экзамену вызваляюцца:

20.1. педагагічныя работнікі, якія маюць дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь (БССР) і былога Саюза ССР, прысвоеныя за дасягненні ў галіне адукацыі;

20.2. настаўнікі і выкладчыкі, якія маюць вучонае званне, ступень, ці прыйшлі працаваць ва ўстановы адукацыі з пасады старшага выкладчыка, навуковага супрацоўніка вышэйшай навучальнай установы або навукова-даследчай установы, метадыстаў, загадчыкаў кабінетаў, аддзелаў метадычных устаноў усіх найменняў, устаноў павышэння кваліфікацыі, калі іх вучонае званне, ступень ці работа на асноўнай пасадзе адпавядае таму прадмету, які яны выкладаюць ва ўстанове адукацыі;

20.3. настаўнікі, выкладчыкі, якія з'яўляюцца аўтарамі падручнікаў, вучэбна-метадычных комплексаў;

20.4. педагагічныя работнікі, якія сталі пераможцамі і лаўрэатамі рэспубліканскага або пераможцамі абласных, Мінскага гарадскога конкурсаў прафесійнага майстэрства;

20.5. педагагічныя работнікі, якія маюць стаж работы ў першай катэгорыі 10 і больш гадоў;

20.6. кіраўнікі гурткоў, з ліку педагагічных работнікаў, калектывы якіх атрымалі пад іх кіраўніцтвам званне "ўзорнага" ці "народнага".

21. Працэдура атэстацыі не павінна перавышаць 3 месяцаў з дня падачы заявы педагагічным работнікам у атэстацыйную камісію.

Для прэтэндэнтаў на вышэйшую катэгорыю гэты тэрмін адлічваецца з дня прадстаўлення дакумента аб здачы кваліфікацыйнага экзамену.

22. Калі атэстуемы не здаў кваліфікацыйны экзамен на вышэйшую катэгорыю, далейшая яго атэстацыя не праводзіцца. Праз год ён можа праходзіць атэстацыю ва ўстаноўленым парадку.

У выпадку, калі атэстуемы здаў кваліфікацыйны экзамен, але ў навучальна-выхаваўчай установе не атрымаў кваліфікацыйнай катэгорыі, ён мае права прайсці атэстацыю на працягу трох гадоў без здачы кваліфікацыйнага экзамену.

23. Для прэтэндэнтаў на другую і першую катэгорыю кваліфікацыйны экзамен не праводзіцца.

24. Педагагічныя работнікі, якія выказалі жаданне прайсці атэстацыю і атрымаць вышэйшую катэгорыю, падаюць пісьмовую заяву ў атэстацыйную камісію ўстановы адукацыі да 10 кастрычніка, а прэтэндэнты на другую і першую катэгорыі на працягу навучальнага года, але не пазней, чым за 3 месяцы да яго заканчэння.

25. Графік праходжання атэстацыі на вучэбны год (пасля разгляду заяў атэстацыйнай камісіі, што фіксуецца пратакольным запісам) прэтэндэнтаў на вышэйшую катэгорыю складаецца не пазней 15 кастрычніка, а прэтэндэнтаў на другую і першую катэгорыі — не пазней 1 красавіка бягучага года.

Графік зацвярджаецца загадам кіраўніка і ўзгадняецца з прафсаюзным камітэтам установы адукацыі. Атэстуемыя знаёмяцца з графікам у дзесяцідзенны тэрмін пад роспіс.

26. Атэстацыйная камісія ў адпаведнасці з графікам атэстацыі праводзіць вывучэнне педагагічнай дзейнасці атэстуемага, кіруючыся патрабаваннямі тарыфна-кваліфікацыйных характарыстык, метадычнымі рэкамендацыямі па ацэнцы дзейнасці педагагічных работнікаў.

27. З улікам аналізу педагагічнай дзейнасці атэстуемага праводзіцца атэстацыйная гутарка. Не пазней, чым за тыдзень, атэстуемага трэба азнаёміць з яго характарыстыкай за подпісам кіраўніка і старшыні прафкама ўстановы адукацыі. У час гутаркі супастаўляюцца ацэначныя меркаванні адміністрацыі, членаў камісіі і атэстуемага, робяцца вывады аб эфектыўнасці, выніках яго педагагічнай працы, маральна-асобасных якасцях педагагічнага работніка, абмяркоўваюцца шляхі самаўдасканалення, паляпшэння педагагічнай дзейнасці, перспектывы яго прафесіянальнага росту і павышэння кваліфікацыі.

28. Абмеркаванне атэстацыйных матэрыялаў праводзіцца ў прысутнасці атэстуемага і падрабязна фіксуецца пратакольным запісам.

29. Атэстацыйныя матэрыялы (асабістая заява, характарыстыка, даведка аб здачы кваліфікацыйнага экзамену, пратаколы пасяджэння камісіі, аналітычныя матэрыялы вывучэння педагагічнай дзейнасці атэстуемага) захоўваюцца ва ўстанове адукацыі 5 гадоў.

Кніга пратаколаў пасяджэнняў атэстацыйнай камісіі павінна быць прашнуравана, пранумаравана і змацавана подпісам кіраўніка і пячаткай. Пратаколы падпісваюцца старшынёй і ўсімі членамі атэстацыйнай камісіі.

30. Пры праходжанні атэстацыі ва ўстаноўленым гэтым Палажэннем парадку маюць права (незалежна ад стажу работы на пасадзе, па якой атэстуюцца) прэтэндаваць на прысваенне той жа кваліфікацыйнай катэгорыі, якая ім была прысвоена раней, наступныя педагагічныя работнікі:

настаўнікі-дэфектолагі, метадысты, педагогі-арганізатары, педагогі сацыяльныя, выхавальнікі, педагогі-псіхолагі (пры абавязковай наяўнасці дыплома аб перападрыхтоўцы з прысваеннем кваліфікацыі "практычны псіхолаг ва ўстановах адукацыі"), майстры вытворчага навучання, канцэртмайстры, калі яны перайшлі на гэтыя пасады з пасад настаўніка ці выкладчыка;

выхавальнікі-метадысты дашкольных устаноў, метадысты, выхавальнікі навучальных устаноў, калі яны перайшлі на гэтыя пасады з пасады выхавальніка дашкольнай установы;

выхавальнікі дашкольных устаноў, калі яны перайшлі з пасады выхавальніка навучальнай установы, метадыста;

педагогі-псіхолагі дашкольных устаноў (пры абавязковай наяўнасці дыплома аб перападрыхтоўцы з прысваеннем кваліфікацыі "практычны псіхолаг ва ўстановах адукацыі"), калі яны перайшлі з пасады выхавальніка дашкольнай установы;

кіраўнікі гурткоў (клубаў па інтарэсах, калектываў любіцельскіх аб'яднанняў, секцый, студый, турысцкіх груп), калі яны перайшлі на гэтыя пасады з пасад настаўніка, выкладчыка, выхавальніка, музычнага кіраўніка дашкольнай установы, трэнера-выкладчыка, майстра вытворчага навучання, культарганізатара, метадыста, акампаніятара;

кіраўнікі фізічнага выхавання, калі яны перайшлі на гэтую пасаду з пасады настаўніка, трэнера-выкладчыка.

Пры праходжанні атэстацыі ў выпадках, прадугледжаных дадзеным пунктам, педагагічныя работнікі, якія прэтэндуюць на вышэйшую катэгорыю, ад кваліфікацыйнага экзамену вызваляюцца.

31. У выключных выпадках, якія не прадугледжаны гэтым Палажэннем, рашэнне аб допуску да атэстацыі педагагічных работнікаў прымае Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь па хадайніцтве адміністрацыі і атэстацыйнай камісіі ўстановы адукацыі.

### ГЛАВА 4

### Рашэнні, якія прымаюцца па выніках атэстацыі

32. На падставе вынікаў атэстацыйнай гутаркі камісія прымае адно з наступных рашэнняў:

32.1. прысвоіць (не прысвоіць) адпаведную кваліфікацыйную катэгорыю з назвай пасады педагагічнага работніка, па якой ён атэстуецца;

32.2. пацвердзіць кваліфікацыйную катэгорыю;

32.3. знізіць кваліфікацыйную катэгорыю.

33. Рашэнне прымаецца шляхам тайнага галасавання пры наяўнасці не менш за 2/3 членаў камісіі і з'яўляецца правамоцным, калі за яго прагаласавала не менш 50 працэнтаў прысутных.

З рашэннем камісіі атэстуемы знаёміцца непасрэдна пасля атэстацыі, пад роспіс.

34. Рашэнне атэстацыйнай камісіі афармляецца загадамі кіраўнікоў устаноў адукацыі, а ў выпадках, якія прадугледжаны пунктам 11 гэтага Палажэння, органаў кіравання адукацыяй і ўступае ў сілу з дня яго прыняцця.

35. Па выніках атэстацыі педагагічных работнікаў робяцца адпаведныя запісы ў працоўнай кніжцы ў графе "Звесткі аб рабоце".

36. Кантроль за правільнасцю правядзення атэстацыі ўскладаецца на органы непасрэднага кіравання.

37. Пры нязгодзе з вынікамі атэстацыі педагагічны работнік у дзесяцідзённы тэрмін мае права звярнуцца з заявай у атэстацыйную камісію вышэйстаячага органа кіравання адукацыяй.

Пры выяўленні парушэнняў атэстацыйная камісія вышэйстаячага органа кіравання адукацыяй мае права адмяніць рашэнне атэстацыйнай камісіі ўстановы адукацыі і ў месячны тэрмін са дня звароту атэстуемага правесці паўторную атэстацыю работніка, у дачыненні да якога былі дапушчаны парушэнні. Рашэнне гэтай камісіі лічыцца канчатковым, аб'яўляецца загадам органа кіравання і даводзіцца да ведама ўстановы адукацыі і атэстуемага.

38. Працоўныя спрэчкі, якія ўзнікаюць па выніках атэстацыі педагагічных работнікаў, разглядаюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь".

**Міністр В.І.СТРАЖАЎ.**

"УЗГОДНЕНА"
Прэзідыум Цэнтральнага камітэта
Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі
**Старшыня Т.І.ЧОБАТАВА.**
Пратакол №5 ад 27.11.2000 г.

# Механико-математический факультет Белорусского государственного университета

## объявляет о начале олимпиады "Абитуриент БГУ-2001" по математике

Механико-математический факультет является одним из ведущих подразделений Белорусского государственного университета. В его составе шесть отделений: научно-производственное, научно-педагогическое, математической электроники, компьютерной математики, математических методов в экономике и механике. Выпускникам этих отделений присваиваются соответственные, квалификации: "Математик", "Математик. Преподаватель математики и информатики", "Математик. Математик-системотехник", "Математик. Математик – системный аналитик", "Математик. Математик-экономист", "Механик. Математик-прикладник". Кроме того, студенты механико-математического факультета имеют возможность на платной основе получить дополнительное экономическое образование и квалификацию референта-переводчика (английский и немецкий языки).

Олимпиада пройдет в три тура (первый тур — заочный). Участниками олимпиады могут стать учащиеся выпускных классов средних общеобразовательных учебных заведений, выпускных курсов средних специальных и профессионально-технических учебных заведений.

Участие в олимпиаде платное. Сумма оплаты включает в себя почтовые, полиграфические, организационные расходы, оплату труда преподавателей, проверяющих работы. Стоимость участия в олимпиаде — 3100 (три тысячи сто рублей). Деньги должны быть отправлены почтовым переводом или банковским перечислением по адресу: 220050, г. Минск, пр-т Ф.Скорины, 4, Белгосуниверситет, р/с 3622204930033 в Минской городской дирекции ОАО "Белбизнесбанк", код 764, с пометкой "Мехмат, олимпиада". Желающие могут произвести оплату непосредственно в расчетно-кассовом центре Белгосуниверситета на улице Октябрьской, 10 (тел. 229-25-90).

Решения задач первого тура надо записать в тетрадь, на обложке указать фамилию, имя, отчество, полный домашний адрес с почтовым индексом и телефоном, школу, класс.

Тетради с решениями, квитанции почтовых переводов или банковских перечислений следует отправить по адресу: 220050, г. Минск, пр-т Ф. Скорины, 4, Белгосуниверситет, мехмат, олимпиада. Последний срок отправки — 15 марта 2001 года. Телефоны для справок: 209-50-46, 209-53-91.

Победители заочного тура будут приглашены в Белгосуниверситет на второй, очный тур. Победители второго тура будут допущены к заключительному — третьему — туру, который состоится в мае месяце и будет проводиться приемной комиссией БГУ. По результатам третьего тура оргкомитет олимпиады внесет предложения по количественному и персональному составу победителей и призеров олимпиады.

Победители олимпиады по математике получат право быть зачисленными на механико-математический факультет без вступительных экзаменов, а призеры будут пользоваться при поступлении правами медалистов.

Оргкомитет олимпиады приглашает к участию и десятиклассников, лучшие из которых получат специальное удостоверение.

**Н.И. ЮРЧУК,**
**профессор, декан механико-математического факультета Белгосуниверситета.**

### Условия задач первого тура

1. Из пунктов $A$ и $B$ навстречу друг другу вышли одновременно 2 поезда. Каждый из них двигался сначала равноускоренно (ускорения были различны), а достигнув некоторой скорости, — равномерно. Отношение скоростей равномерного движения поездов равно 5/4. В некоторый момент времени скорости поездов оказались равными, а один из них прошел к этому времени расстояние в 5/4 раза большее, чем другой. В пункты $B$ и $A$ поезда прибыли одновременно. Какую часть пути прошел каждый из поездов к тому моменту, когда их скорости оказались равными?

2. Решить уравнение

$$\sqrt{17-2\sqrt{45-2x}}=x-14.$$

3. Около треугольника $ABC$ описана окружность с центром в точке O. Касательная к окружности, проходящая через точку $C$, пересекается с прямой, делящей пополам угол $ABC$ треугольника, в точке K, причем угол $BKC$ равен половине угла $BCA$ треугольника. Сторона $AB$ на $\sqrt{3}$ длиннее стороны $AC$, а расстояние от точки $O$ до стороны $AC$ на 1 больше расстояния от O до стороны $AB$. Найти радиус окружности.

4. Решить систему уравнений

$$\begin{cases} 2y^3+2x^2+3x+3=0,\\ 2z^3+2y^2+3y+3=0,\\ 2x^3+2z^2+3z+3=0. \end{cases}$$

5. Доказать, что если на диагоналях $AC$ и $BD$ выпуклого четырехугольника $ABCD$ найдется соответственно хотя бы по одной точке $P$ и $Q$ такой, что

$$h^P_{AB}\cdot h^P_{BC}=h^P_{CD}\cdot h^P_{DA},\quad h^Q_{DA}\cdot h^Q_{AB}=h^Q_{BC}\cdot h^Q_{CD},$$

где $h^M_X$ — перпендикуляр, опущенный из точки $M$ диагонали четырехугольника на его сторону $X$ или ее продолжение, то четырехугольник $ABCD$ — параллелограмм.

6. При каких значениях параметра $\alpha$ $(0 \le \alpha \le 1)$ уравнение $\sin^3 x+\cos^3 x=\alpha$ имеет на отрезке $[15°, 375°]$ максимально возможное число решений?

Перыёдыка

# Часопіс "Беларусь"




У студзеньскім нумары часопіса, які хутка прыйдзе да падпісчыкаў, шмат знакамітых "персаналій". Чытачы сустрэнуцца з Вольгай Іпатавай (гэта своеасаблівая споведзь вядомай пісьменніцы пад рубрыкай "Хрысціянству-2000. Асобы") і пісьменнікам-юбілярам Іванам Шамякіным, з вершамі Алеся Наўроцкага і прытчамі Янкі Сіпакова, даведаюцца пра творчасць мастака Алеся Марачкіна і мастачкі Вольгі Аржанухінай, пра "мужную жанчыну" Ларысу Чарапанаву і яе недзяржаўны універсітэт "Энвіла". Расказваецца ў часопісе пра адметны мастацкі праект "Пасланне ў XXI стагоддзе" і "вертыкальны ўзлёт" палітыка з Ваўкавыска Уладзіміра Лукашэвіча, пра папулярную спявачку Аляксандру Гайдук і гомельскага фотамайстра Юрыя Бірукоева, які ўдала стартаваў са сваімі работамі ў нашым часопісе. Аматарам паэзіі будзе цікава паслухаць "беларускі маналог" вядомага сучаснага рускага паэта Цімура Зульфікарава, які наведваў Беларусь. Георгій Таразевіч дзеліцца ўспамінамі пра драматычныя падзеі ў Літве ў 1991 годзе (знакаміты захоп войскамі тэлецэнтра), а публіцысты Алесь Гібкоўскі і Уладзімір Вялічка разважаюць пра жыццё-быццё на мяжы тысячагоддзяў.

Аматары турызму пройдуцца па Нарачанскім краі разам з вядомым турыстам Юрыем Акудовічам (заканчваецца цыкл яго цікавых падарожных нататкаў), гаспадыні ў чарговы раз атрымаюць рэцэпты смачных страў і карысныя парады ў нашым "Утульным доме". Да таго ж вы даведаецеся пра асноўную прычыну захворванняў грыпам (і, значыць, зможаце абараніцца ад хваробы), а таксама заглянеце ў патаемны свет магіі вачыма Івана Шпадарука (ён, дарэчы, не раіць ні ў якім разе не прыбягаць да паслуг калдуноў).

Крыжаванка, "Чорна-белыя сакрэты" для аматараў шахматна-шашачнай гульні, летапіс часопіса "Беларусь" і прадстаўленне кніг на роздум — усё гэта традыцыйна ёсць і ў чарговым нумары выдання.

У часопісе "Беларусь" ёсць матэрыялы на розныя густы. Чытайце!

***Агляд падрыхтаваў***
***Іван ЖДАНОВІЧ,***
***намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларусь".***

# Арганізатарам міжнароднага матэматычнага конкурсу "Кенгуру-2001"

Міністэрства адукацыі, Рэспубліканская завочная фізіка-матэматычная і хімічная школа Міністэрства адукацыі, Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя "Конкурс" пры садзейнічанні аддзелаў адукацыі і зацікаўленых настаўнікаў арганізавалі і правялі ў сакавіку 2000 года матэматычную гульню - конкурс "Кенгуру" для школьнікаў 3-10-х класаў, у якой прынялі ўдзел 14672 вучні з 598 школ, ліцэяў і гімназій усіх абласцей рэспублікі і горада Мінска.

Усяго ж у міжнародным матэматычным конкурсе "Кенгуру", які быў праведзены 16 сакавіка 2000 г., прынялі ўдзел адзін мільён восемсот тысяч школьнікаў з 32 краін свету. Больш падрабязную інфармацыю аб удзеле ў конкурсе гэтага года беларускіх школьнікаў, звесткі аб арганізатарах у раёнах (гарадах) і школах, якія змаглі ўключыць у гэтую цікавую інтэлектуальную гульню найбольшую колькасць удзельнікаў, можна знайсці ў "Настаўніцкай газеце" (№125 ад 28 лістапада 2000 г.). З заданнямі конкурсу можна пазнаёміцца ў часопісе "Матэматыка. Праблемы выкладання" (выпускі 2,3,4 за 2000 г.).

15 снежня 2000 г. пры садзейнічанні дырэктара Падароўскай Святланы Сцяпанаўны і яе намесніка па вучэбна-выхаваўчай рабоце Маргарыты Міхайлаўны Юдзіцкай у сярэдняй школе №138 г. Мінска быў праведзены рэспубліканскі семінар для прадстаўнікоў раённых і гарадскіх аддзелаў адукацыі, адказных за правядзенне конкурсу "Кенгуру".

На семінар былі запрошаны настаўнікі, кіраўнікі школ і работнікі органаў адукацыі, якія пажадалі арганізаваць дзяцей для ўдзелу ў чарговым міжнародным матэматычным конкурсе "Кенгуру", які будзе праведзены 15 сакавіка 2001 года для вучняў 3-10-х класаў. Усяго ў семінары прынялі ўдзел 69 чалавек, якія прадстаўлялі 58 раённых і гарадскіх аддзелаў адукацыі з усіх абласцей рэспублікі і горада Мінска.

Удзельнікі семінара азнаёміліся з вынікамі "Кенгуру-2000", абмеркавалі арганізацыйныя пытанні, азнаёміліся з вопытам правядзення конкурсу лепшымі арганізатарамі яго ў школах, раёнах і гарадах, атрымалі матэрыялы, неабходныя для арганізацыі і правядзення конкурсу "Кенгуру-2001". Па заканчэнні работы семінара адбыўся чарговы сход членаў Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя "Конкурс", на якім былі разгледжаны арганізацыйныя пытанні і праведзена ўзнагароджанне лепшых арганізатараў конкурсу.

У рамках аднадзённага семінара было цяжка ахапіць кола ўсіх праблем, звязаных з арганізацыяй і правядзеннем конкурсу, падвядзеннем яго вынікаў. Не хапіла таксама часу для абмеркавання шматлікіх і безумоўна карысных прапаноў удзельнікаў семінара. У выніку было прынята рашэнне аб правядзенні яго ў наступным годзе на працягу двух дзён.

Што ж трэба зрабіць тым, хто пажадае арганізаваць гульню-конкурс "Кенгуру" у сваёй школе(раёне,горадзе)?

У першую чаргу трэба ўважліва азнаёміцца з правіламі і ўмовамі правядзення гэтага інтэлектуальнага спаборніцтва. Пры неабходнасці можна звярнуцца к арганізатару ў раёне, а пры яго адсутнасці – у рэспубліканскі арганізацыйны камітэт. Пасля азнаямлення з матэрыяламі праінфармаваць аб конкурсе настаўнікаў, дырэктараў школ і іх намеснікаў .

Заяўкі на ўдзел у конкурсе "Кенгуру-2001" павінны быць адпраўлены арганізатарамі ў раёне (горадзе) па пошце ці з аказіяй не пазней 20 лютага 2001 года з указаннем школ раёна(горада) і колькасці ўдзельнікаў ад іх па класах. У заяўцы ўказваюцца таксама звесткі аб арганізатару і адрас, на які можна адпраўляць заданні і карткі ўдзельнікаў. Арганізацыйныя ўзносы ў памеры 1000 рублёў з аднаго ўдзельніка здаюцца арганізатарам конкурсу ў школе на разліковы рахунак Беларускай асацыяцыі "Конкурс" праз бліжэйшы філіял "Беларусбанка", Пры гэтым трэба карыстацца бланкамі квітанцый з рэквізітамі асацыяцыі. Копія квітанцыі разам з заяўкай ад школы здаецца арганізатару ў раёне (горадзе), а пры яго адсутнасці – у рэспубліканскі аргкамітэт.

Усе ўдзельнікі конкурсу разам з пасведчаннем атрымаюць прыз "для ўсіх". У якасці дадатковых прызоў лепшыя ўдзельнікі ў сваіх раёнах(гарадах) атрымаюць па падпісцы часопісы "Сюрпрыз" і "Рэпетытар", навукова-папулярную і займальную літаратуру па матэматыцы і іншыя цікавыя і карысныя рэчы. Пераможцы конкурсу ў рэспубліцы сярод вучняў 7-10-х класаў будуць прэміраваны пуцёўкай у летнюю школу для пераможцаў і прызёраў алімпіяд, конкурсаў і турніраў школьнікаў у летніку "Зубраня".

Аргкамітэт напамінае таксама, што ўдзел у конкурсах – справа дабраахвотная як для дзяцей, так і для настаўнікаў.

Па ўсіх пытаннях, якія звязаны з удзелам конкурсе "Кенгуру-2001", звяртацца да Генадзя Уладзіміравіча Няхая на адрас:

РЗФМХШ ("Кенгуру"), 220013, Мінск, вул. Дарашэвіча, 3;
тэл. (017) 239-91-72; (017) 232-80-31.

**АРГКАМіТЭТ.**

